# ГЭТЫЯ ПЫТАННІ НЕ ЦЕРПЯЦЬ АДКЛАДУ

## Самадзейнасць? Так. Але НА ПРАФЕСІЯНАЛЬНЫМ УЗРОЎНІ

За два з лішнім гады ў рэспубліцы з'явілася больш дваццаці народных тэатраў. Гэта нагляднае сведчанне шырокага ажыццяўлення ў нашай краіне праграмы эстэтычнага выхавання працоўных, сведчанне таго, якім насычаным і паўнакроўным становіцца духоўнае жыццё нашага народа.

Перспектыўны план развіцця сеткі культурна-асветных устаноў рэспублікі прадугледжвае арганізацыю 80 самадзейных народных тэатраў да канца сямігодкі.

Але ўжо і сёння адкрыццё новых тэатраў стрымлівае адсутнасць добра падрыхтаваных кіраўнікоў — галоўных рэжысёраў, якія змаглі б правільна паставіць творчую і вучэбна-выхаваўчую работу. Гэтае пытанне надзвычай важнае і вырашыць яго трэба неадкладна, інакш ставіцца пад пагрозу стварэнне ў рэспубліцы новых народных тэатраў.

Пры Тэатральна-мастацкім інстытуце ёсць рэжысёрскі факультэт з вельмі абмежаванай колькасцю студэнтаў. На трэцім і чацвёртым курсах займаецца ўсяго па пяць, а на першым і другім курсах па адзінаццаць чалавек. Першы выпуск (пяць чалавек) будзе толькі ў 1963 годзе. Гэтыя студэнты ўжо цяпер сябе добра зарэкамендавалі, і, безумоўна, яны будуць працаваць у прафесіянальных тэатрах. Але ж у 1963 годзе ў рэспубліцы па плану павінна быць 56 народных тэатраў. І ўжо цяпер трэба было б, каб першы і другі курсы рэжысёрскага факультэта рыхтавалі кадры для народных тэатраў, а з наступнага года павялічыць хоць бы ў два разы набор на факультэт.

Але і пры гэтай умове рэжысёрскі факультэт не зможа задаволіць патрэбы самадзейнасці. Прыйдзецца, відаць, шукаць яшчэ нейкія крыніцы. Адной з іх могуць быць курсы кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці. Магчыма, што на іх базе трэба стварыць двухгадовыя пастаянна дзеючыя курсы для падрыхтоўкі рэжысёраў і прымаць туды слухачоў з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй, якія маюць практычны стаж работы кіраўніка драматычнага калектыву.

Так ці інакш, а ў народных тэатрах сёння — самая вострая праблема—праблема рэжысуры. Гледачы хочуць бачыць драматычную самадзейнасць амаль на прафесіянальным узроўні, а гэта могуць забяспечыць прафесіянальна падрыхтаваныя рэжысёры. Яны ж нясуць поўную адказнасць і за вучэбна-выхаваўчую працу.

Не менш важнае значэнне мае і выхаванне ў самадзейных артыстаў адказнасці за сваю працу і нават звычайнай сціпласці. Выканаўцам, якія вызначыліся, прысвойваецца званне «Артыст народнага тэатра». І некаторыя таварышы, атрымаўшы такое высокае званне, пачынаюць зазнавацца, супрацьстаўляюць сябе іншым удзельнікам, патрабуюць матэрыяльнага заахвочвання, без аплаты адмаўляюцца выступаць. Гэта азначае, што ў калектыве дрэнна пастаўлена выхаванне і рэжысёр не змог прышчапіць людзям пачуцця высокай адказнасці і сціпласці.

Агульнавядома, што ў вызначэнні рэпертуарнай лініі народнага тэатра першае слова таксама належыць рэжысёру. Глядач чакае ад народнага тэатра спектакляў, у першую чаргу, на тэмы сучаснага народнага жыцця і шукае ў сваім тэатры, перш за ўсё, адказ на многія вострыя пытанні, якія хвалююць яго іменна сёння. Але ён не заўсёды знаходзіць такія адказы, таму што ставіцца яшчэ многа выпадковых п'ес.

Іншы раз у калектыве ёсць адзін добры выканаўца і рэжысёр дзеля аднаго яго спыняецца на той ці іншай п'есе, якая не пад сілу ўсяму калектыву. А бывае, што рэжысёр бярэ да пастаноўкі п'есу, якая ні для творчага жыцця тэатра, ні для выхавання калектыву не мае асаблівай каштоўнасці. Думаецца, што выбар п'есы «Дрэвы паміраюць стоячы» ў Барысаўскім народным тэатры з гэтага пункту гледжання не зусім прадуманы.

Разам з тым, гледачы чакаюць ад народных тэатраў разнастайнага рэпертуару. Толькі непажадана, каб ён паўтараў многія пастаноўкі прафесіянальных тэатраў. Лепш, калі народныя тэатры будуць узбагачаць свой рэпертуар новымі п'есамі. Тым не менш добра было б, каб хоць адзін спектакль народнага тэатра дубліраваў пастаноўку на прафесіянальнай сцэне. Гэта дасць магчымасць абменьвацца асобнымі выканаўцамі, знаёміцца з рэпетыцыямі, ажыццяўляць кансультацыі і г. д. Калектыў народнага тэатра здолее паехаць на генеральную рэпетыцыю ці спектакль дзяржаўнага тэатра.

Наогул паміж самадзейнымі і прафесіянальнымі тэатрамі павінна быць больш цесная сувязь. Народным тэатрам вялікую дапамогу могуць аказаць і драматургі. Ашмянскі народны тэатр паставіў камедыю А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце». Гэты спектакль нарадзіўся ў цеснай садружнасці з аўтарам. Такая садружнасць пажадана ва ўсіх народных тэатрах. Чаму, скажам, А. Маўзон не можа ўзяць шэфства над Слуцкім народным тэатрам, а І. Шамякін — над Барысаўскім, дзе ставіліся іх п'есы?

Шэфская дапамога прафесіянальных тэатраў самадзейным, якая прадугледжана загадам Міністэрства культуры БССР, пакуль што мала эфектыўная. Шэфства мае на мэце сталую, канкрэтную дапамогу: трэба пасылаць рэжысёраў, мастакоў для пастаноўкі або кансультацыі, наладжваць гастрольныя выступленні асобных артыстаў прафесіянальнага тэатра ў найбольш складаных ролях, рэжысёры і вядучыя акцёры павінны перыядычна праводзіць у народным тэатры лекцыі, гутаркі і вучэбныя заняткі, патрэбна пасылаць спецыялістаў з вытворчых цэхаў тэатра для дапамогі ў працы.

А хіба немагчыма перадаць падшэфнаму тэатру з дазволу Міністэрства культуры сцэнічнае абсталяванне, электраасвятляльную апаратуру, бутафорыю, рэквізіт, касцюмы, афармленне спектакляў? Добрую паслугу зрабілі б прафесіянальныя тэатры, арганізаваўшы пры тэатрах семінары-практыкумы для падрыхтоўкі асвятляльнікаў, грымёраў, бутафораў-рэквізітараў з ліку ўдзельнікаў народных тэатраў. Вялікую карысць дала б стажыроўка пры прафесіянальных тэатрах рэжысёраў або кіраўнікоў драматычных калектываў.

Вось гэта была б дзейсная дапамога. Народны тэатр не можа існаваць і ўдасканальвацца, калі яго калектыў не будзе згуртаваны адзінствам ідэйна-творчых намаганняў, высокай свядомасці і грамадскай дысцыпліны. Кожны ўдзельнік тэатра нясе адказнасць за сваю працу і за выкананне ўстаноўленых правіл перад калектывам, а калектыў нясе маральную адказнасць за кожнага са сваіх членаў.

Усё гэта павінна быць адлюстравана ў статуце народнага тэатра.

Статут павінен вызначыць арганізацыйныя прынцыпы тэатра, фінансавую базу, склад артыстаў, абавязкі і правы агульнага сходу, мастацкага савета і галоўнага рэжысёра.

Большасць народных тэатраў пакуль што статута не мае. Рэспубліканскаму Дому народнай творчасці трэба было б распрацаваць прыкладны статут, які з некаторымі зменамі, улічваючы мясцовую спецыфіку, стаў бы асноўным законам жыцця народных тэатраў.

Палажэннем аб народных тэатрах прадугледжана бюро ў складзе 7—9 чалавек, якое ўзначальваецца галоўным рэжысёрам. На ім ляжыць штодзённая дапамога рэжысёру ў арганізацыі дзейнасці тэатра, у падрыхтоўцы рэпетыцый, правядзенні спектакляў і вучэбна-выхаваўчай работы. Бюро не замяняе мастацкі савет, у якога свае функцыі—абмеркаванне рэпертуарных планаў, асобных п'ес, якія прымаюцца да пастаноўкі, прагляд і абмеркаванне падрыхтаваных да выпуску новых пастановак. У большасці тэатраў такіх бюро яшчэ няма.

Для нармальнай працы народных тэатраў перш за ўсё неабходна свая база, дзе можна было б праводзіць рэпетыцыі, вучэбныя заняткі, ставіць спектаклі. Але многія тэатры не маюць такой базы. Як правіла, яны працуюць пры раённых і гарадскіх дамах культуры, якія не хочуць прадастаўляць памяшканне для рэпетыцый і спектакляў, таму што 25—28 дзён у месяц паказваюць кінафільмы. І гэта скоўвае творчы рост драматычных калектываў.

У свой час было вынесена рашэнне аб адкрыцці спецыялізаванага магазіна па продажу неабходных матэрыялаў для калектываў мастацкай самадзейнасці. Аднак рашэнне і да гэтага часу не выканана.

Сакратарыят ВЦСПС прыняў пастанову, якою дадзена права рэспубліканскім і абласным саветам прафсаюзаў прысвойваць званні народных тэатраў лепшым тэатральным калектывам прафсаюзаў. Саветы прафсаюзаў павінны гэта праводзіць у цесным кантакце з рэспубліканскімі і абласнымі дамамі народнай творчасці. Такога кантакту пакуль няма. Хіба нармальна, калі аб прысваенні назвы народнага тэатра драматычнаму калектыву Брэсцкага чыгуначнага клуба амаль на працягу месяца не ведалі ні Міністэрства культуры БССР, ні Рэспубліканскі і абласныя дамы народнай творчасці?

Ёсць рад іншых пытанняў, якія нельга вырашаць без Міністэрства культуры БССР. У прыватнасці — тарыфікацыя галоўнага рэжысёра і загадчыка пастановачнай часткі робіцца адзінай тарыфікацыйнай камісіяй Міністэрства культуры. Пытанні матэрыяльнага забеспячэння тэатраў таксама лягчэй вырашаць разам.

Высакароднай дзейнасці народных тэатраў павінны дапамагаць усе ўстановы і арганізацыі, уся наша грамадскасць.

**М. КОЛАС,**
**старшы інспектар Упраўлення культасветустаноў Міністэрства культуры БССР.**

**Да вынікаў абмеркавання праблем развіцця тэатральнай самадзейнасці ў газеце будзе змешчаны рэдакцыйны артыкул.**

## Беларускія мастакі рапартуюць



В. ТКАЧУК. З серыі «На Палессі».

## ДРУГІ НАВУЧАЛЬНЫ

У Гомельскім Палацы культуры чыгуначнікаў імя Ул. І. Леніна пачаліся заняткі другога набора універсітэта мастацкага выхавання.

З нецярплівасцю чакалі гэтага дня рабочыя, служачыя, студэнты. Усе яны добра ведаюць, што «ад культурнага росту насельніцтва ў велізарнай ступені залежыць уздым прадукцыйных сіл, прагрэс тэхнікі і арганізацыя вытворчасці, павышэнне грамадскай актыўнасці працоўных, развіццё дэмакратычных асноў самакіравання, камуністычная перабудова быту». Так запісана ў гістарычным дакуменце—праекце Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

На першыя агульнаўніверсітэцкія заняткі прыйшло каля тысячы чалавек. Гэта пераважна моладзь, передавікі вытворчасці, ударнікі і члены брыгад камуністычнай працы, людзі розных прафесій. Слухачамі універсітэта ўпершыню сталі зменны майстар фабрыкі «Палесдрук» Ала Салдаценка, слесар завода «Гомсельмаш» Віктар Бандарэнка, выхавацельніца дзіцячага сада з прыгараднага рабочага пасёлка Касцюкоўка Галіна Ражыцына, работніцы дрэваапрацоўчага камбіната Юлія Шабаліна і Тамара Ісачэнка і многія іншыя.

У бягучым навучальным годзе універсітэт мастацкага выхавання будзе працаваць па абноўленай праграме. У яе ўключаны тэмы, падказаныя жыццём. Слухачы будуць вывучаць матэрыялы гістарычнага XXII з'езда КПСС, пазнаёмяцца з лепшымі творамі савецкага мастацтва. Будзе праведзена некалькі творчых сустрэч з кампазітарамі, драматургамі, артыстамі, мастакамі.

Вопыт работы універсітэта паказаў, якую вялікую карысць прыносіць прагляд і абмеркаванне спектакляў абласнога тэатра і самадзейных драматычных калектываў. Такія заняткі прадугледжаны праграмай і ў бягучым навучальным годзе.

**Р. ЗАЙЦАЎ.**

# НА ЎСКРАІНЕ—ЯК У ЦЭНТРЫ
## ТАК ПАВІННА БЫЦЬ!

НОВЫ МІКРАРАЁН Мінска. Будаўніцтва яго пачалося ў 1957 годзе. А які ён ужо велізарны!

Вось цэнтральная магістраль раёна — вуліца Карла Лібкнехта. Паабапал яе выстраіліся чатырох- і пяціпавярховыя жылыя дамы, сярэдняя школа. Тут жа размешчана клінічная бальніца, навукова-даследчы інстытут туберкулёзу, дзіцячыя сады і яслі.

Роўнымі радамі стаяць гэтыя высокія прыгажуны з вялікімі вокнамі, балконамі, тэлевізійнымі антэнамі на дахах. Вакол памяшканняў — тратуары пакрыты асфальтам, а побач — маладыя дрэвы, газоны, кветкі.

Вуліца цягнецца ўсё далей і далей. На ёй ёсць некалькі харчовых і прамтаварных магазінаў, атэлье і майстэрні індывідуальнага пашыву адзення, па рамонту электраапаратуры, гадзіннікаў, пункты хімчысткі і пральні, аддзяленне сувязі, аптэка, бібліятэка, дзіцячая паліклініка, цырульня.

А як жа абстаіць справа ў мікрараёне з задавальненнем культурных запатрабаванняў жыхароў?

На ўсёй плошчы вялікай новабудоўлі няма і не будуецца ні адной культурна-асветнай установы. Бліжэйшым кінатэатрам з'яўляецца «Авангард», які знаходзіцца на Грушаўскім пасёлку, за два-тры кіламетры ад мікрараёна.

— У нас няма месца, дзе сабрацца жыхарам, каб правесці сход ці арганізаваць іншае цікавае мерапрыемства, — расказвае кіраўнік домаўпраўлення № 3 Уладзімір Ігнатавіч Трусаў. — Няма памяшкання, каб адкрыць чырвоны куток, дзе можна было б трымаць газеты, часопісы, кнігі, арганізаваць фізкультурныя і спартыўныя групы, праводзіць лекцыі, работу з агітатарамі, актывам домаўпраўлення, а магчыма, арганізаваць і народны універсітэт. Не прадугледжана такога месца і ў новых будынках, якія ўзводзяцца цяпер.

Слушныя і цікавыя думкі настаўніка працоўнага выхавання школьнікаў Пятра Гагарына. Ён сказаў:

— Часам бываюць выпадкі, калі людзі ад няма чаго рабіць п'юць гарэлку, дрэнна сябе паводзяць на вуліцы. А быў бы ў нас добры клуб ці чырвоны куток, падобных фактаў было б значна менш. Самае галоўнае ў наш час —выхаванне чалавека, стварэнне яму добрых умоў для няўхільнага павышэння яго культуры і ведаў — усё гэта непасрэдна вынікае з праекта Праграмы КПСС.

Для ўздыму народнага дабрабыту выключна важнае значэнне набывае далейшае развіццё і паляпшэнне грамадскага харчавання. Добра наладжанае грамадскае харчаванне ў корані мяняе быт сям'і савецкага чалавека, вызваляе жанчыну ад лішніх клопатаў па хатняй гаспадарцы.

Аднак на тэрыторыі мікрараёна няма ні сталовай, ні кафэ, ні закусачнай.

Жыхары мікрараёна многа раз прасілі, каб ім адкрылі хоць невялічкую кафэ-закусачную. Мінула нямала часу, а справа ніяк не зрушыцца з месца.

Кафэ-закусачную можна зрабіць такой, што яна стане сапраўдным культурным асяродкам, а не проста месцам, куды забягаюць перакусіць. Няхай на сталах, разам з меню, будзе вялікі выбар свежых газет і часопісаў, надзённых брашур. Няхай прыходзяць сюды людзі, каб сустрэцца за шклянкай чаю са сваімі сябрамі, абмяняцца навінамі, з карысцю і з задавальненнем правесці вольны час.

У мікрараёне і ў населеных пунктах, што знаходзяцца побач, ёсць шмат рабочых і служачых, якія працуюць у майстэрнях, магазінах і іншых установах. А колькі тут медыцынскіх работнікаў! І ўсе яны кожны дзень харчуюцца сухой ежай, бо сталовай няма. Праўда, для будаўнікоў тут часова адкрылі філіял-сталовую. Яна працуе ад сталовай тонкасуконнага камбіната. Але абеды для рабочых будаўніцтва дастаўляюцца сюды халодныя і няякасныя. Падаграваць іх на месцы раздачы не хочуць.

Няма неабходнасці даказваць, як выгадна і зручна карыстацца паўфабрыкатамі, наколькі яны аблягчаюць працу гаспадынь. Раней дастаўлялі ў харчовыя магазіны мікрараёна пельмені, катлеты, фарш. Цяпер чамусьці не завозяць.

Гандлёвыя арганізацыі, як бачна, не жадаюць займацца выпускам шырокага асартыменту паўфабрыкатаў. Не клапоцяцца яны і аб укараненні такіх прагрэсіўных форм гандлю, як выстаўка-продаж прадуктаў, развазны гандаль, прыём заказаў і дастаўка абедаў на дом.

На ўскраіне ёсць вялікая патрэба арганізаваць дамавыя кухні. Але яны не прадугледжаны нават у праектах новых будынкаў. Трэба выправіць такое становішча.

ЯШЧЭ НЯДАЎНА паміж шостым і другім цагельнымі заводамі была пустэча. Гэта былі калісьці самыя далёкія ад цэнтра горада прадпрыемствы. Цяпер тут вырас велізарны рабочы пасёлак.

Яркім электрычным святлом асвятлілася заходне-паўночная ўскраіна сталіцы. У прасторных, светлых дамах рабочых гараць лямпачкі Ільіча, гавораць радыё, працуюць тэлевізары.

Многа прастору і святла ў навасёлаў новага рабочага пасёлка. І жыць бы, здаецца, людзям ды радавацца. Але часта розныя «дробязі» псуюць жыхарам настрой, дарэмна ўскладняюць іх жыццё.

Амаль у цэнтры новага рабочага пасёлка, стаяць побач чатыры, пахіленыя на бок, старыя прычэпы аўтакрам. Гэта і ўся гандлёвая «сетка» на вялікі рабочы раён, якая па задуме гарсавета павінна цалкам задавальняць патрэбы жыхароў. Але паглядзім, што ёсць у гэтых крамах.

Вось першая палатка. На паліцах яе ляжыць некалькі шпулек нітак, кавалкі чатыры матэрыялу і яшчэ сякая-такая дробязь. Гэта — прамтаварная крама.

— Я спрабавала прасіць у Мінпрамгандлі дзіцячае адзенне — касцюмчыкі для хлопчыкаў, сарочкі, — расказвае прадавец гэтай палаткі Марыя Сцяпанаўна Казакевіч, — але мне гэтых тавараў не даюць. А попыт на іх цяпер надзвычай вялікі.

У другой аўтакраме прадаецца гарэлка. Напэўна, кіраўнікам Мінхарчгандлю выгадна прадаваць яе тут, бо ў цэнтры горада яна адпускаецца ў магазінах толькі ва ўстаноўленыя гадзіны, а тут гандлююць без усялякіх абмежаванняў.

Трэцюю палатку аблюбаваў сабе вартаўнік. У чацвёртай ідзе гандаль хлебабулачнымі вырабамі. І вось, як ні дзіўна, але тут заўсёды чарга. Людзі чакаюць, калі прывязуць хлеб. Работніца завода медпрэпаратаў Валянціна Слышкова не вытрымала:

— Калі гэта ўсё скончыцца. Прыйшла на абед з работы, а хлеба ў магазін яшчэ не прывезлі. А без хлеба, самі ведаеце, няма і абеду.

— І такое здараецца часта, — амаль у адзін голас загаварылі жанчыны.—Каб купіць хлеб ці батон, даводзіцца дабірацца ў цэнтр горада.

— У нас нават няма кіёска, дзе б можна было, ідучы на работу купіць свежы нумар газеты, часопіса, кнігу,—гаворыць рабочы завода жалезабетонных вырабаў Іван Шыбко. — Няхай бы хоць час ад часу прыязджала да нас кніжная аўтакрама. Дык вось у цэнтры горада, дзе шмат кніжных спецыялізаваных магазінаў, побач з імі заўсёды ўбачыш і аўтакрамы і столікі з кнігамі. А нам жа таксама патрэбна і кніга, і газета, і дзецям аловак ды сшытак.

Так вось клапоцяцца кіраўнікі гандлёвых арганізацый Мінска пра пакупнікоў, якія жывуць у адаленых ад цэнтра месцах. Яны нават не заўважаюць, як хутка расце і расшыраецца горад. Сёння ўскраіна — заўтра цэнтр. Тры гады назад пачалося будаўніцтва мікрараёна па Сталінградскай вуліцы. А сёння тут ужо вырас цэлы горад. Ёсць дзіцячы сад і яслі, вялікая школа. Не шанцуе толькі магазіну. Меркавалася, што ён уступіць у строй у канцы мінулага года. Потым адкрыццё яго адклалі да Першага мая. Мінуў і гэты тэрмін. Жыхары гэтага раёна згубілі ўсялякую надзею, што сёлета яны, нарэшце, будуць мець свой магазін.

Чаму ж так атрымліваецца, што ў гандлёвых арганізацыях нашай сталіцы ёсць сынкі і пасынкі?

У жыхароў ускраіны, што за асфальтаванай шашою, якая ідзе на цагельны завод № 2, ёсць і яшчэ шмат слушных патрабаванняў. У прыватнасці, тут няма ніводнай майстэрні па рамонту абутку, адзення. Калі трэба чалавеку пагаліцца або сфатаграфавацца, даводзіцца таксама ехаць у цэнтр горада. Аб тэлефоне-аўтамаце і размовы быць не можа.

— Іншы раз здарыцца бяда, захварэе чалавек, і — што хочаш рабі, — скардзяцца жыхары. — Бегчы ў горад — далёка, ехаць — не ходзяць аўтобусы.

А трапіць у цэнтр горада адсюль нялёгкая справа. Гады два назад каля пасёлка хадзіў аўтобус па маршруту Ленінградская—цагельны завод № 2. Цяпер гэты маршрут нехта адмяніў. І людзям дабавілася клопату. Да бліжэйшага аўтобуснага прыпынку, што на Грушаўскім пасёлку, дватры кіламетры. І жыхарам даводзіцца кожны дзень адмерваць гэтую адлегласць, ідучы на работу і вяртаючыся вечарам дадому. А як адчуваюць сябе вучні, асабліва пачатковых класаў? Ім жа таксама трэба хадзіць па тры-чатыры кіламетры да школы і столькі ж назад. Іншай школы тут пакуль што няма.

Дамы стаяць тут прыгожыя, з высокімі і светлымі вокнамі. А вось па вуліцах ні праехаць, ні прайсці. Узнікае законнае пытанне. Дзе ж інжынер райкамунгаса Кастрычніцкага раёна? Ці бывае ён тут? Яго ж прамы абавязак сачыць за добраўпарадкаваннем вуліц.

НЕАБХОДНА кінуць сур'ёзны папрок і жыхарам гэтага пасёлка. Не любяць яны свайго лепшага сябра — зялёных насаджэнняў, не вядуць сапраўднай барацьбы за прыгажосць родных мясцін. Нават на галоўных вуліцах пасёлка, такіх, як імя Талаша, Глаголева, Прылуцкага, Азоўскай, не ўбачыш ніводнага дрэва, ніводнай кветкі. На прысядзібным участку кожнага дома пасаджаны добрыя сады. А вось на вуліцы, ля свайго дома пасадзіць дрэва ці кветку ніхто не дадумаўся. І вулічныя камітэты, і школьнікі, якіх тут нямала — ніхто не праявіў ініцыятывы.

Кожны індывідуальны забудоўшчык абавязан зрабіць ля свайго дома і тратуар. Тым не менш, новыя дамы растуць, нібы грыбы пасля дажджу, а пра тратуары забудоўшчыкі і не дбаюць. За добраўпарадкаваннем і чысцінёй пасёлка павінны больш пільна сачыць і Кастрычніцкі райвыканком і раённае аддзяленне міліцыі.

Трэба прымаць захады, каб ліквідаваць адзначаныя недахопы.

**І. РЫБЧЫНСКІ,**
**слухач Мінскай вышэйшай партыйнай школы.**

## Беларускія мастакі рапартуюць



Р. КУДРЭВІЧ. «Беларускія прыпеўкі».

## ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ВЫСТУПІЛА НАША ГАЗЕТА

21 ліпеня гэтага года ў нашай газеце быў змешчаны артыкул Д. Жураўлёва «Хай струны цымбалаў гучаць галасней». Як паведамілі з Рэспубліканскага Дома народнай творчасці, у артыкуле правільна ўскрываюцца недахопы, якія тармозяць далейшае развіццё і рост цымбальных самадзейных аркестраў у рэспубліцы. У сувязі з гэтым Дом народнай творчасці вырашыў правесці дзесяцідзённы семінар кіраўнікоў цымбальных аркестраў, аказаць практычную і метадычную дапамогу на месцах гэтым інструментальным калектывам аматараў і заказаць для іх спецыяльны рэпертуар.

Станоўчы водгук на выступленне газеты атрыман ад кіраўніцтва Барысаўскай фабрыкі піяніна. Яе дырэктар тав. Вайткевіч піша, што, ідучы насустрач пажаданням аматараў музыкі, фабрыка прыступіць да вырабу цымбал у чацвёртым квартале 1961 г.

Галоўны рэдактар Дзяржвыдавецтва БССР І. Казека паведаміў рэдакцыі, што сёлета выйшлі ў свет «П'есы для цымбал з фартэпіяна» Д. Камінскага. Планам рэдакцыйнай падрыхтоўкі прадугледжана выданне брашуры І. Жыновіча «Аркестр цымбалістаў» у якасці дапаможніка для ўдзельнікаў мастацкай самздзейнасці. У той жа час І. Казека адзначае, што заказы кнігагандлюючых арганізацый на такі від літаратуры вельмі нязначныя. Так, «П'есы для цымбал з фартэпіяна» выдадзены тыражом у адну тысячу экземпляраў. Яшчэ ніжэйшыя тыражы іншых выданняў, якія выпускаюцца ў дапамогу музычным калектывам. Большая частка тыражу «Школы для беларускіх цымбал» І. Жыновіча не была прынята для рэалізацыі кнігагандлюючымі арганізацыямі з-за адсутнасці заказаў, праляжала некалькі год на складзе выдавецтва і была спісана.

Да такіх трывожных фактаў нельга не прыслухацца. Яны сведчаць аб тым, што прапаганда музычнай літаратуры, асабліва ў сельскай мясцовасці, пушчана на самацёк і кнігагандлюючыя арганізацыі амаль ёю не займаюцца.

Як жа рэагаваў на артыкул Д. Жураўлёва Белкаапсаюз, ад якога ў першую чаргу залежыць распаўсюджанне і рэалізацыя нотных выданняў і музычных інструментаў на вёсцы? Вось што піша начальнік гандлёвага ўпраўлення Белкаапсаюза Г. Котаў: «У свой час Белкаапсаюз заказаў 300 цымбалаў і завёз іх у гандлёвую сетку. Аднак з-за адсутнасці попыту гэтыя цымбалы пасля працяглага захавання былі спісаны як непрыгодныя». Такім чынам тав. Котаў загадзя распісаўся ў бездапаможнасці спажывецкай кааперацыі, якая не распаўсюджвае належным чынам беларускія народныя інструменты ў шырокіх масах і не ўмее зрабіць так, каб яны былі рэалізаваны сярод сельскіх аматараў музыкі. Нельга таксама пагадзіцца і з такім сцверджаннем тав. Котава, быццам бы «цымбалы не з'яўляюцца масавым інструментам» і таму, маўляў, вытворчасць іх павінна весціся толькі па папярэдніх заказах. Няхай і па папярэдніх заказах, але ж гэтыя заказы ад сельскіх дамоў культуры і калгасных клубаў павінны рабіць іменна работнікі Белкаапсаюза, каб потым перадаваць іх на Барысаўскую фабрыку.

## НОВЫЯ ЎСТАНОВЫ КУЛЬТУРЫ

**У рэспубліцы вядзецца вялікае будаўніцтва новых устаноў культуры. У Мінскай вобласці за сем месяцаў бягучага года пабудавана больш дваццаці сельскіх клубаў. У Дзяржынску, Мядзелі, Крывічах пабудаваны раённыя дамы культуры. РДК будуюцца таксама ў Смалявічах, Крупках, дамы культуры — у Чырвонай Слабадзе Старобінскага раёна і Свіры Мядзельскага раёна.**

**38 калгасных клубаў пабудавана ў Магілёўскай, 25 — у Брэсцкай абласцях. Новая музычная школа адкрыта ў Стаўбцах. Новыя клубы на 300 і 150 месц пабудавачы ў калгасе «12 год Кастрычніка» Рагачоўскага раёна і ў саўгасе «Ціхінічы» Гомельскай вобласці.**



ПА ГАРАДАХ РЭСПУБЛІКІ. Гродна сёння. Савецкая плошча. Фота Ч. МЕЗІНА. (БЕЛТА).

